# Тыднёвік Магілёўскі




№ 7 (48) 18 лютага 1999 г. Кошт свабодны


У аўторак, 16 лютага, распачалася кампанія па перапісу насельніцтва ў Рэспубліцы Беларусі, якая павінна завершыцца 23 лютага. На просьбу нашых чытачоў яшчэ раз падаем некалькі парадаў для тых беларусаў, якія не заўсёды могуць выразна сфармуляваць свае адказы на адмысловыя пытаньні анкеты, спрыяючы праз сваю няўпэўненасьць магчымаму недакладнаму й прадузятаму выніку таго-ж перапісу.

**Вы зробіце правільна, калі:**

**– Запатрабуеце ад лічыльніка анкету на беларускай мове.**

**– Будзеце адказваць на пытаньні па беларуску.**

**– Вызначыце сваю «хатнюю» мову як беларускую.**

**– Пазначыце іншай мовай, якой свабодна валодаеце, не абавязкова расейскую (магчыма, вы ведаеце польскую, украінскую, нямецкую, ангельскую й г.д.).**

Гэтыя парады складзеныя на падставе рэкамэндацыяў спэцыяльнай камісіі Таварыства Беларускае Мовы, якая аналізавала ідэю перапісу й яго магчымыя наступствы.




БЛІЗКАЯ ГІСТОРЫЯ (да 7 стар.)

## Пра што сьпявалі, пра што марылі беларускія сыны

**Прапануем чытачам дзьве чарговыя песьні беларускага антыбальшавіцкага супраціву 1918- пачатку 1950-х гадоў.**

### *То ня дудка мая*

То ня дудка мая, не жалейка –
Гэта стрэльба мая –
трохлінейка.
Весяліла мяне, даглядала,
На чужой старане пільнавала.
Як забралі мяне ды у войска,
Навучалі мяне там па-свойску.
Там ледзь костачак мне
не зламалі, гэй,
Карабінку за тое даравалі.
Я ў астрозе сядзеў
прад вайною,
Бо свабоды хацеў ды
зь зямлёю,
Уцякаць я хацеў – не ўдалося,
Карабінкі мае не знайшлося.
То ня дудка мая, не жалейка,
гэй,
Гэта стрэльба мая –
трохлінейка.

### *Падняты родны сьцяг дзяржавы*

Падняты родны сьцяг
дзяржавы,
Ад даўніх спаўшае вякоў.
І зь дзён мінуўшай продкаў
славы
Аджыў, жыве наш Край ізноў!
Аджыў і княжы замак гонкі –
Душа і сьведка даўніх год,
А зь ім і зь песьняй роднай,
звонкай
І беларускі наш народ.
У сэрцах зьеднаных да працы
Юнакаў мужных, маладых
Квітнее Родны Край Наш – Маці,
Зарой аквечаны, жывы.
Ў баю мы створым дысцыпліну,
Сяброўства цэмантам скуём.
Сваю каханую Радзіму
Мы вечнай славаю спаўём.
Глядзяць з павагаю ўсе твары,
Усьмешка вуснамі бяжыць.
Хвіліна – гэта думак чары.
Мы хочам жыць,
мы будзем жыць!
Мы зробім ўсё, каб жыла Маці,
Каб не памерла нам навек.
Яднайцесь з намі,
нашы брацця,
Каб беларус быў чалавек.

**АД РЭДАКЦЫІ** На гэтым месцы [illegible], да падпісаньня газэты ў друк, стаяў зусім іншы матэрыял. У ім прадстаўнік Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах прэзыдэнта, што прызначаныя на 16 траўня, Сяргей Абадоўскі распавядаў аб тым, каму і як уручаў ён днямі пакеты выбарчых дакумэнтаў. Гэты матэрыял, як і ўвогуле рубрыка аб прэзыдэнцкіх выбарах, не спадабаліся абласному ўпраўленьню юстыцыі, куды на прафілактычную гутарку сёньня былі выкліканыя рэдактар і прадстаўнік заснавальніка газэты Валадар Цурпанаў. Гутарка завяршылася ня надта акрэсьленым папярэджаньнем. Увечары мы з ім пабывалі таксама ў абласным ўпраўленні друку. На тую ж тэму. Каб захаваць ужо набраны, зверстаны і гатовы да друку нумар газэты, — мы прынялі рашэнне пакуль зняць матэрыял, які выклікаў ва ўсіх адпаведных органах незадавальненне. Чытачы, якія чакаюць газэту, нам даражэй. З тым, хто, як і якім чынам парушае заканадаўства аб друку будзем разбірацца будзем пазьней. Бо выбары прыдумала не газэта. Іх арганізуе і праводзіць Вярхоўны Савет. Газэта выконвае адведзеную ёй законам і грамадзтвам ролю: інфармуе чытачоў аб жыцьці, фактах і падзеях. Але што нашай уладзе закон, чытачы і нейкае там грамадзтва...

## *Па якасьці абвестак мясцовыя выбары прайграюць*

**У мінулыя выходныя ў цэнтры Магілёва зьявіліся плякатныя абвесткі Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах прэзыдэнта.**

На якаснай белай паперы, каляровыя, прывабнага памеру – гэтыя абвесткі запрашаюць грамадзянаў прыняць удзел у прэзыдэнцкіх выбарах, якія згодна Канстытуцыі прызначаныя, як вядома, на 16 траўня. На плякатах, дарэчы, утрымліваюцца фрагмэнты адпаведных артыкулаў Канстытуцыі, якія сьведчаць аб законнасьці прынятага Вярхоўным Саветам рашэньня.

Па меншай меры два дні абвесткі, што выглядаюць значна больш прывабна, чымсьці тыя, што ад імя ўлады інфармуюць аб мясцовых выбарах, спакойна ўпрыгожвалі сьцены падземнага пераходу ў цэнтры горада і некалькі бліжэйшых платоў. Відаць, не было каму (выходныя!) аддаць міліцыянтам адпаведны загад на «зьнішчэньне крамолы». Саміх-жа ахоўнікаў парадку засмучала выдатная якасьць плякатаў, бо яны прызвычаеныя да таго, што апазыцыйная агітацыя друкуецца на сьціплых аркушах шэрай паперы. Але ў дадзеным выпадку гаворка ідзе не пра апазыцыю, у звычайным яе разуменьні. Гаворка ідзе пра Канстытуцыю, легітымны Вярхоўны Савет, прэзыдэнцкія выбары. Ідэя, безумоўна, вартая якаснай паперы. Адное засмуціла: мова абвесткі. Выбары ўсё-ж у Беларусі.

**Дзяніс НОВІКАЎ**



**Датэрміновае галасаваньне.**

